


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

26 кастрычніка 2001 года
№ 43 (340)
Выходзіць па пятніцах




## Навіны рэгіёна

### Загінуў бацюшка

**МАЛАДЗЕЧНА.** 19 кастрычніка, рабочы завода металаканструкцый наехаў на матацыкле "Ява-350" на бацюшку, які памер на месцы.
Айцец **Мікалай**, 1942 года нараджэння, служыў у царкве Прэабражэння Гасподня ў Насілаве. Здарэнне адбылося ля завода "Спадарожнік" каля 19 гадзін. Бацюшка рамантаваў глушыцель свайго аўтамабіля, знаходзячыся на другой паласе праезнай часткі.
**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Інаўгурацыя прэзідэнта

**АСТРАВЕЦ.** У аўторак на цэнтральнай плошчы мястэчка прайшла інаўгурацыя перашага прэзідэнта Астравецкай СШ №2. Ім стаў 11-класнік **Уладзімір Кудко.** Выбары прайшлі ў суботу. Першы прэзідэнт набраў 215 галасоў з 321.
Намеснік дырэктара школы **Вольга Лябецкая** сказала, што гэта былі сапраўдныя дэмакратычныя выбары. Удзел у выбарах бралі вучні 8–11 класаў. За пост прэзідэнта змагаліся 7 кандыдатаў. У школе афармілі стэнд з біяграфіямі, фотаздымкамі і праграмамі прэтэндэнтаў. Былі і наглядальнікі. У дапамогу прэзідэнту астатнія кандыдаты сфармiравалі свой Кабінет Міністраў.
**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

### Новы камандзір часці

**СМАРГОНЬ.** Камандзір вайсковай часці №1259 **Уладзімір Лігута** звольнены ў запас па выслузе гадоў. Праводзілі яго ў пятніцу. Намеснік старшыні дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Рэспублікі Беларусь **Ігар Рэут** падзякаваў У. Лігуту за бездакорную службу.
Новым камандзірам часці №1259 прызначаны палкоўнік **Генадзь Чарныш.**
**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

### Яшчэ адзін ордэн Маці

**ВАЛОЖЫН.** Даярка калгаса імя Максіма Горкага **Надзея Гардынец** атрымала ордэн Маці. Яна выхоўвае пяцярых дзяцей. Ордэн Маці ёй уручылі ў Мінску падчас тыдня Маці.
**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Беларускі ксёндз у Кабыльніку

**МЯДЗЕЛ.** Новы пробашч з'явіўся ў касцёле ў Кабыльніку: айцец **Бярнард** прыехаў сюды з Гудагая. Былы пробашч – айцец **Аркадзь** – накіроўваецца выкладаць у Пінскую вышэйшую духоўную семінарыю. Айцец Аркадзь, паляк, «хварэў» за беларускую мову. А беларусы на яго прыкладзе навучыліся шанаваць родную мову.
**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Адмена цягнікоў



**МАЛАДЗЕЧНА.** 29, 30 кастрычніка, 2 лістапада адмяняюцца электрацягнікі адпраўленнем на Мінск у 9-41 і прыбыццём у 15-26.
З 27 кастрычніка адмяняюцца наступныя прыгарадныя цягнікі: Маладзечна-Багданаў-Маладзечна, якія хадзілі па суботах адпраўленнем з Маладзечна ў 7-32, прыбыццём у Маладзечна у 11-39. Па нядзелях – Маладзечна-Юрацішкі-Маладзечна, адпраўленнем у 14-22, прыбыццём у 21-01.
7 лістапада рух прыгарадных дызель-цягнікоў будзе, як па нядзелях (акрамя адмененых%.

### Пераводзім стрэлкі

Завяршаецца перыяд "летняга" часу. У ноч на 28 кастрычніка ў 3 гадзіны стрэлкі пераводзяцца на 1 гадзіну назад.
**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 27 кастрычніка

**Мінск**
2 – 4°С (уначы)
6 – 7°С (удзень)



**Вільня**
3°С (уначы)
7°С (удзень)



Нядзеля, 28 кастрычніка

**Мінск**
2 – 4°С (уначы)
7 – 8°С (удзень)



**Вільня**
3°С (уначы)
9°С (удзень)



## Дабегчы да фінішу!

**МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю тут прайшоў XIV нацыянальны фестываль бегу "Языльская дзесятка".**

Як сказаў работнік міністэрства спорту і турызму **Георгій Манкевіч**, у фестывалі бегу ўдзельнічала 3250 чалавек. Хаця рэальна бегла больш, бо не ўлічвалі маленькіх маладзечанцаў, якія змагаліся за прызы перад афіцыйным адкрыццём.

Арганізатар гэтых стартаў, настаўнік фізкультуры Языльскай СШ, што на Старадарожчыне, **Мікалай Груздь** гаварыў, што галоўнае ў "Языльскай дзесятцы" – дабегчы да фінішу. І не так істотна, якім па ліку.

Лепшы таму прыклад – 5-гадовы **Сяргей Сазонаў**. І няхай ён прыбег апошні! Але ён не разгубіўся, калі з-за недарэчнасці з абуткам застаўся адзаду і завяршыў дыстанцыю.

Фестываль бегу праводзіўся ў чатырнаццаты раз і мае свае традыцыі. Але сёлета былі і наватвядзенні: упершыню не ўздымаўся сцяг "Языльскай дзесяткі" і не гучаў гімн спаборніцтваў – узнялі афіцыйны сцяг Беларусі і прагучаў дзяржаўны гімн. Упершыню на фестывалі бегу спаборнічалі майстры па спартыўнай хадзе. Раней героямі святаў былі толькі бегуны.

Дыстанцыі былі розныя: ад 60 метраў да 10 кіламетраў. На галоўнай дыстанцыі пераможцам **Зарыслаў Гапеенка** з Віцебска. Стартавалі індывідуальныя забегі і эстафеты.

Адкрыў фестываль міністр спорту і турызму **Яўген Ворсін**.

Наступны фестываль бегу вернецца ў роднае гняздо: ён пройдзе ў вёсцы Языль.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**5-гадоваму маладзечанцу Сяргею Сазонаву не пашанцавала на "Языльскай дзесятцы". Ён згубіў абутак, калі бег дыстанцыю 60 метраў. Але хлопчык не разгубіўся і дабег да фінішу. За што і атрымаў прыз "За волю да перамогі".**

### Экспрэс-апытанне віляйчан

## У якія сітуацыі вы траплялі пасля пераводу стрэлкі гадзінніка на сезонны час?



**Ніна Лагода, гаспадыня:**
– На цэлую гадзіну раней выехалі з дачкой на Полацкі цягнік і бавілі з ёй час на вакзале.



**Алег Кулік, вадзіцель аўтобуснага парку:**
– Перавод на зімні час нічым не страшны. Вось на летні – праспіш на работу, трапіш у рэзерв. А, было і з зімнім часам! Прыйшоў на работу не ў пяць раніцы, а ў чатыры. І снаўдаўся адзін па гаражы туды-сюды.



**Наталля Мацюшова, работніца завода "Зеніт":**
– Я заўсёды ўстаю своечасова. У мяне ўсё нармальна. Гадзіннік майму жыццю не перашкода.



**Таццяна Мамай, бухгалтар лясгаса:**
– Сітуацыі? Мне больш падабаецца, калі стрэлкі пераводзяцца назад. Раніцою заўсёды можна адаспацца.

**Фотаапытанне правёў Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

■ ПАСЛУГІ

# Колькі каштуе чысціня

**МАЛАДЗЕЧНА. Бясконцае мыццё бялізны. Колькі часу і сіл яно адымае?**

А колькі грошай? Напрыклад, парашок каштуе ад 530 да 2600 рублёў за пачак (450 грамаў). Адбельвальнік ад 700 да 1400 рублёў за літр, гаспадарчае мыла – 250-400 рублёў. Яшчэ можна ўлічыць іншыя "дробязі", неабходныя для гэтага працэсу. Можна дадаць грошы, якія мы плацім за ваду і энергію. Застаецца толькі ўключыць дзесьці на гадзіну прас, які таксама "паліць" святло. А цяпер прыкіньце, колькі чалавек (у асноўным, жанчына) затрачвае на гэтую нескладаную, але неабходную аперацыю.

Але ёсць альтэрнатыва. 35 год таму ў горадзе адкрыўся камбінат бытавога абслугоўвання "Сняжынка". У 1994 годзе камбінат пераўтварыўся ў закрытае акцыянернае таварыства. Цяпер "Сняжынка" абслугоўвае насельніцтва і арганізацыі горада і раёны Мінскай часткі нашага рэгіёна. Прадпрыемства мае два падраздзяленні: механічная пральня і самаабслугоўвання. Тут мыюць спецадзенне, бялізну, мужчынскія кашулі – гэта новы від паслуг. Тэрмін выканання заказу – ад 3 да 10 дзён. Але ёсць паслуга "сёння-на-сёння".

Сярэдні кошт праз механічнае мыццё для арганізацый – 360 рублёў за кілаграм, для насельніцтва – 333 рублёў. Пральня самаабслугоўвання абыдзецца ў 3095 рублі за 10 кілаграмаў з сыравінай "Сняжынкі", а са сваёй сыравінай – 2512 рублёў. Гэтым відам паслуг штомесяц карыстаецца 350-400 чалавек, а механічным мыццём – 300 чалавек.

Прадпрыемства аказвае для арганізацый транспартныя паслугі на прывоз і адвоз бялізны: 118 рублёў за кіламетр плюс 3320 рублёў за гадзіну.

Пральнае абсталяванне ў "Сняжынцы" 1987-89 гадоў выпуску, прасавальнае – 1993 года. Дырэктар ЗАТ "Сняжынка" **Сяргей Аноп** падкрэсліў, што прадпрыемства за летні перыяд прыбытковае. У перспектыве за кошт прыбытку плануецца абнаўленне абсталявання, павышэнне якасці.

Сёлета ў пральні самаабслугоўвання памянялі абсталяванне. Хоць яно і было ў выкарыстанні (1993 года выпуску), але больш прадукцыйнае, чым ранейшае. Ідзе мантаж абсталявання ў механічнай пральні. Яно 1991 года выпуску.

Круглую дату на "Сняжынцы" будуць сустракаць 3 лістапада. На прадпрыемстве ёсць свае ветэраны. Гэта рабочыя **Вольга Радына** (стаж работы ў "Сняжынцы" 34 гады), **Ірына Туровіч**, брыгадзір **Марыя Жукавец**, вадзіцель **Мікалай Ігнатовіч** (усе па 28 год), загадчык вытворчасці **Надзея Журавовіч** (27 гадоў).

**Ірына РАБУШКА.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Сродкамі для мыцця цікавяцца не толькі жанчыны. Маладзечна, міні-рынак ля магазіна "Мотавелатавары", панядзелак.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 18 кастрычніка | 25 кастрычніка |
|---|---|---|
| Долар | 1493,00 руб. | **1499,00 руб.** |
| Нямецкая марка | 689,62 руб. | **683,73 руб.** |
| Літ | 373,32 руб. | **374,74 руб.** |
| Расійскі рубель | 50,54 руб. | **50,66 руб.** |
| Злоты | 365,44 руб. | **364,76 руб.** |
| ЕЎРА | 1348,78 руб. | **1337,26 руб.** |

**"Вулічныя" курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1490 – 1510 руб. | **1500 – 1530 руб.** |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 17.10 | 24.10 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2500 | **2500** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7280 | **7800** |
| Сасіскі, 1 кг | 3180 | **3180** |
| Селядзец, 1 кг | 1720 | **1850** |
| Рыс, 1 кг | 520 | **530** |
| Грэчка, 1 кг | 420 | **450** |
| Цукар, 1 кг | 675 | **675** |
| Алей, 1 л | 1000 | **1060** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 820 | **790** |
| Маянэз, 200 г | 270 | **270** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1600 | **1600** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 550 | **550** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 470 | **470** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 350 | **280** |
| Капуста, 1 кг | 150 | **145** |
| Памідоры, 1 кг | 1000 | **1100** |
| Лімоны, 1 кг | 1500 | **1300** |
| Апельсіны, 1 кг | 1300 | **1250** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1200 | **1400** |
| Масла, 1 кг | 2600 | **2600** |
| Тварог, 1 кг | 1400 | **1000** |
| Малако, 1,5 л | 400 | **450** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1300 | **1500** |
| Бульба, 1 вядро | 1500 | **1400** |
| Морква, 1 кг | 300 | **300** |
| Яблыкі, 1 кг | 250 | **200** |

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Следства па факце крадзяжу ў рэдакцыі "РГ"

**МАЛАДЗЕЧНА. Як паведаміў начальнік следчага аддзела Маладзечанскага ГРАУС Анатоль Габруковіч, справа аб крадзяжы маёмасці з памяшкання рэдакцыі, перададзеная з аддзела дазнання ў следчы аддзел.**

У ноч на 12 кастрычніка была скрадзеная амаль уся тэхніка, на якой выпускалася наша газета. Справу вядзе следчы **Людміла Якаўлева**.

Пакуль ніякіх новых звестак пра злачынства ў міліцыі няма, хаця, як патлумачыла Людміла Якаўлева, любая выпадковая акалічнасць можа праліць святло на справу. Акрамя следчага аддзела над фактам крадзяжу працуюць спецыялісты па вышуку.

**Рэдакцыя "РГ".**

# Небяспечныя Аляхновічы

**МАЛАДЗЕЧНА. У пятніцу, 19 кастрычніка, увечары, на чыгуначнай станцыі Аляхновічы грузавы цягнік збіў мужчыну, які памер на месцы.**

У момант, калі цягнік пад'язджаў да станцыі, інвалід другой групы, глуханямы мінчанін 1951 года нараджэння, пачаў пераходзіць пуці. Машыніст цягніка ўключыў экстраннае тармажэнне, але сутыкнення пазбегнуць не ўдалося. Віны машыніста ў гібелі мужчыны няма.

Там жа адбылося другое здарэнне за тыдзень. 23 кастрычніка электрычка збіла 6-гадовую дзяўчынку.

Яна выбегла на чыгуначныя пуці ў той час, калі ехала электрычка. Дзяўчынка знаходзіцца ў бальніцы ў цяжкім стане.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Трубапракатны завод выкупілі расіяне

**МАЛАДЗЕЧНА. У ліпені сумеснае прадпрыемства "Маладзечанскі трубапракатны завод" выкупіў Наваліпецкі металургічны камбінат.**

Гісторыя: У 1995 годзе мінская кампанія "Рамас" набыла 2 пракатныя станы ў пасёлку Беразінскае. Праз два гады пачалі працаваць Першы і Другі трубапракатныя заводы. Але ў 2000 годзе прадпрыемствы аб'ядналіся і стварылі з англійскай фірмай сумеснае прадпрыемства. У ліпені 2001 года СП выкупілі расіяне.

Дырэктар ЗАТ "МТЗ" **Аляксандр Чарнышоў** так каменціруе працэс змены ўладальнікаў:

– Гэта нармальна. Былыя гаспадары завода прадалі свае акцыі Ліпецкаму камбінату. У завода былі цяжкасці з набыццём сыравіны і праблемы з рэалізацыяй прадукцыі. А няма рэалізацыі – няма і грошай. З-за гэтага можна трапіць ў даўгавую яму. А сёння Ліпецкі камбінат імпартуе 80% прадукцыі на Захад. Чаму не падтрымаць суседзяў?

Сёння трубапракатны завод цалкам забяспечвае сыравінай расіянаў. Але з-за рознага падатковага абкладання маладзечанцы не маюць рынкаў збыту ў Расіі. Таму 70% прадукцыі ідзе на ўнутраны рынак (асноўны пакупнік – "Мінскі аўтамабілебудаўнічы завод"). Экспарт ідзе у краіны Балтыі, але адначасова завод рыхтуе сертыфікаты, якія дазволяць адгружаць прадукцыю ў краіны Еўрасаюза.

А. Чарнышоў гаворыць, што цяпер завод арыентуецца на дробных пакупнікоў, таму што большасць вялікіх прадпрыемстваў неплацёжаздольныя. Завод набыў офіс у Мінску. Там шукаюць рынкі збыту і базы для захоўвання прадукцыі. Вядуцца перамовы па стварэнні рэгіянальных прадстаўнікоў у Гомелі, Віцебску і Магілёве.

Цяпер на заводзе працуе каля 200 чалавек. Галоўная праблема завода – адсутнасць вытворчых плошчаў.

Тэхнічны дырэктар трубапракатнага завода **Анатоль Тупіцын**:

– Нашыя плошчы не спрыяюць развіццю вытворчасці. Але яны ёсць у завода жалезабетонных вырабаў. Яны знаходзяцца ў аварыйным стане. Нам прапануюць выкупіць гэтыя плошчы за 800 мільёнаў рублёў. Калі паглядзець на стан плошчаў ды яшчэ дадаць выдаткі на рамонт, адкрыццё новых рабочых месцаў і падаткі, атрымліваецца занадта вялікая лічба для завода.

Сёлета месячныя аб'ёмы вытворчасці павялічыліся ў 10 разоў. Анатоль Тупіцын адзначыў, што вырашаюцца пытанні па пераўзбраенні завода.

Дырэктар запэўніў, што завод будзе рухацца толькі наперад.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

# Зацішша, што зацягнулася

Долар, нарэшце, пераадолеў псіхалагічную мяжу ў паўтары тысячы рублёў і топчацца ля адзнакі 1490-1505 рублёў трэці тыдзень запар. Зацішша гэтае можна разглядаць з аптымізмам. Інфляцыя хоць і дадала супраць вераснёўскага ўзроўню, які вызначае ўсё і ўся, аднак працягвае заставацца ў рамках намечанага прагнозу - да 3% у месяц. Завяршэнне года, лістападаўскі пачатак ацяпляльнага сезона і шэраг іншых фактараў паскарае рост цэнаў, але больш, чым на 10% за астатнія дні да канца года і цэны, і долар не падскочаць. Так што самы песімістычны прагноз курсу на 1 студзеня — 1650 рублёў, калі, зразумела, не адбудзецца форс-мажорных (непрадбачаных) падзей. Нацыянальны банк нядаўна адрапартаваў пра вынікі работы за 9 месяцаў і агучыў кантрольныя лічбы плана наступнага года: рост вытворчасці на 5-6%, сярэдняя заработная плата па краіне да канца 2002 года павінна скласці 120 долараў (усяго толькі), курс долара мяркуецца ўтрымаць у інтэрвале не вышэй за 1860-1920 рублёў пры інфляцыі ў 1,5% у месяц.

З іншага боку, рэзервы галоўнага банка краіны падаюць, а разрыў паміж прапанова валюты і попытам на яе на валютна-фондавай біржы працягвае расці. У бліжэйшыя месяцы можа сказацца і накачка эканомікі грашыма, якая працягвалася ўсё лета аж да вераснёўскіх выбараў. Усё гэта не можа не выклікаць недаверу да здольнасці ўладаў утрымаць фінансавую палітыку пры вялізным дэфіцыце бюджэту. Пачакаем — убачым.

Пра ўклады. Канкурэнцыі паміж банкамі ў прапанове грамадзянам больш выгадных умоў размяшчэння грошай амаль няма — паўсюль стаўкі скаціліся да 40-50 працэнтаў гадавых. Што не проста знізіла даходнасць ад захоўвання грошай у банках, а звяло яе практычна да нуля. Гэтаму садзейнічае і рашэнне Нацыянальнага банка аб выдачы ліцэнзій на прыцягненне грашовых сродкаў фізічных асоб ва ўклады з 1 студзеня толькі тым банкам, якія маюць уласны капітал больш за 10 мільёнаў еўра. Пакуль такіх банкаў толькі 7, а прымаюць уклады ўсе 26 банкаў. Таму ім давядзецца ці вярнуць уклады насельніцтву, ці тэрмінова данарошчваць капітал. Кансалідацыя народных сродкаў у буйнейшых дзяржаўных банках садзейнічае іх больш гібкаму прымяненню, але даходнасць для грамадзян знізіцца яшчэ больш: банкам-манапалістам няма патрэбы змагацца за прыцягненне грошай, якія і так да іх цякуць.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

■ СПАЖЫВЕЦ

# Галоўная праблема – таварныя чэкі

**МАЛАДЗЕЧНА. За 9 месяцаў года ў Маладзечанскай арганізацыі абароны правоў спажыўцоў зарэгістраваны 121 зварот.**

94 з іх былі па продажы тавараў неналежнай якасці. Арганізацыя вярнула ўрон на суму 4,2 мільёна рублёў.

У даведцы па выніках работы арганізацыі за 9 месяцаў зазначана, што ў горадзе правілы рознічнага гандлю парушаюцца ў 98% выпадкаў. Як сказала юрыст арганізацыі **Таццяна Адамовіч**, галоўнае парушэнне з боку гандляроў – гэта тое, што яны часцяком не выдаюць спажыўцам таварныя чэкі. А без іх арганізацыя па абароне спажыўцоў не можа разглядаць скаргі гараджан, бо без чэка амаль немагчыма даказаць факт куплі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Дзве запар перамогі ў судзе

**МАЛАДЗЕЧНА. За апошнія два тыдні Маладзечанская арганізацыя абароны правоў спажыўцоў выйграла абедзве судовыя справы, у якіх брала ўдзел.**

21 чэрвеня маладзечанец заказаў у індывідуальнага прадпрымальніка 7 аконных блокаў. Кошт работ – 353 тысячы рублёў. Жыхар горада заплаціў 280 тысяч. Тэрмін выканання заказу – 25 ліпеня.

Прадпрымальнік не выканаў заказ і не вярнуў грошы. Арганізацыя падала ў суд на прадпрымальніка. На судзе прадпрымальнік выплаціў маладзечанцу штраф у 300 тысяч рублёў і выдаткі на юрыдычныя паслугі. У даход таварыства пайшло 30 тысяч рублёў.

Тры гады не мог атрымаць заказаныя тры кубаметры рэек для падлогі іншы жыхар горада.

Прадпрыемства адмаўляла спажыўцу па розных прычынах. Спажывец заплаціў тры гады таму 16,8 мільёна недэнамінаваных рублёў.

Прадпрыемства цяпер згоднае вярнуць 16,8 тысячы, хаця адзін кубаметр рэек цяпер каштуе каля 100 тысяч. Арганізацыя падала на прадпрыемства ў суд. Акрамя пастаўкі рэек, у іскавой заяве да прадпрыемства патрабаванне 570 тысяч рублёў маральнага ўрону.

Суд вырашыў паставіць рэйкі спажыўцу. Ад кампенсацыі яму маральнага ўрону маладзечанец адмовіўся. Хаця, як сказаў старшыня Маладзечанскай арганізацыі абароны правоў спажыўцоў, у пацярпелага боку былі шанцы атрымаць грашовую кампенсацыю.

Арганізацыя атрымала ў даход 30 тысяч.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ МІНУЛАЕ

# Што такое акалёнія?

**ВІЛЕЙКА. Страшэнная бяда нечакана ўварвалася ў сям'ю Эдуарда Пшэляскоўскага. Страціў ён хоць і турботную, але ўсё ж някепскую пасаду лесніка. А ў Заходняй Беларусі ў 1930 годзе працоўных месцаў было днём з агнём не знайсці.**

І вось пасля працяглых нягодаў капрызны лёс усё ж усміхнуўся.яму.

– Ну, дарагія мае, - сказаў ён, вярнуўшыся дадому, - знайшоў! Аж у Любані, у Вілейскім павеце. У дзяржаўным маёнтку, як кажуць, у акалёніі. Дык вось: прайграўся пан любанскі свае ўладанні ў карты. Цяпер тут кіраўніком маёнтка пан ад казны. Раз у год наведваецца з Варшавы інспектар, праводзіць дасканалую рэвізію двара ды налічвае на яго падаткі. Там дадуць казённае бясплатнае жыллё. Нават дровы і тыя дармавыя. Нормы на іх ніякай: толькі заяві ў кантору і прывязуць гатовенькіх сухіх. Кароўка наша будзе "кватараваць" у дваровым хляве на бясплатным сене. Нават карміць і гной з-пад яе выграбаць будзе адмысловы даглядчык. Вам, жанчынкі, толькі падаіць. Я там пагутарыў з **Антосем Казлом**. Дык яны трымаюць за кошт двара нават трох кароў. Бо з іх сям'і на працу ходзяць у акалёнію трое мужыкоў.

– А якая там плата? – не вытрымала жонка.

– За працу акалёнцам плацяць 7 пудоў збожжа ў месяц (114 кг – аўт.) Чужым людзям, падзённікам – па 50 грошаў за дзень. Акалёнцам выдзяляецца зямля пад грады і 15 сотак на полі пад бульбу. Бяры і гною колькі трэба з агульнага хлява, і парку коней, і калёсы, і збрую – усё задарма. Вось толькі свіней паны нам "падклалі": іх трэба ўтрымліваць і даглядаць за свой кошт. Праўда, даржнікі для свіней побач з жыллём. Але парку коней – скокнуць на кірмаш ці да доктара – бясплатна. Ці па іншых патрэбах.

Да апоўначы абмяркоўвалі Пшэляскоўскія магчымасці новага жыцця. Вядома, што нават камень абрастае на адным месцы. І сям'і сарвацца з дому і падацца ў белы свет ой як нялёгка. Але вырашылі ехаць.

– Мне было тады 14 гадоў, – успамінае 1930 год дачка Эдуарда **Марыя Новаш**. – Давялося і кухаркай працаваць, і пакаёўкай за 10 злотых у месяц (крыху больш за 5 пудоў жыта – аўтар). Сталыя дзяўчаты працавалі даяркамі. Кожная даіла 10 кароў па тры разы на дзень. Але карміў і паіў кароў таксама адмысловы даглядчык. Малако перапрацоўвалася ў маёнтку: на ўласным заводзе рабілі сыр. Бульба і збожжа таксама перапраоўваліся на ўласным бровары. Астатнія пацелі на палявых работах: і жанчыны, і мужчыны.

Тады нормаў выпрацоўкі не было. І працоўны дзень быў ненармаваны: ад зары да зары. Калі выбіралі бульбу, то плацілі 15 злотых за скрыню. Святкавалі і нядзелю, і ўсе праваслаўныя і каталіцкія святкі. Але калі-нікалі выходзілі на працу і святам, каб не замокла сена ці збажына. Выходзілі добраахвотна, каб выратаваць дабро.

– Ніякага платнага адпачынку акалёнцам не давалася – гаворыць Марыя Эдуардаўна. – Заахвочванняў грашыма, граматамі ці медалямі не рабілася. Але заработнай платы хапала, бо жылі на ўсім гатовым. А за нядбайства, асабліва за п'янства, проста выганялі з работы, а значыць – і з кватэры. Апошнім нашым кіраўніком быў **Калеснікаў**. А як прыйшлі "саветы", уцёк у Мядзел і жыў там пад іншым прозвішчам.

Адміністрацыя не мела патрэбы збіраць людзей у вольны час. Таму тут, у акалёніі, не было клуба. Не было тут і свайго фельчара: ездзілі да платных лекараў або ў Куранец, або ў Вілейку. Коней двор даваў задарма. Школа была толькі пачатковая. Калі ў сям'і акалёнца нехта паміраў, то двор выдзяляў і коней, і даваў бясплатна труну.

У тыя часы дзяржава не пакінула сялян на волю лёсу, калі ўладальнік маёнтка цярпеў крах. Хаця вяскоўцы – уласнікі зямлі – лічылі акалёнцаў парабкамі і ганарыліся перад імі сваімі перавагамі. Нават дачок сваіх не хацелі аддаваць за "беднага акалёнца". Хоць далёка не кожны гаспадар намалочваў 84 пуды збожжа на аднаго працоўнага, якія зарабляў акалёнец за год. А яшчэ трэба ўлічыць дармавы транспарт, сена, дровы. Ды тыя грошы за выбраную бульбу.

Пры саветах тут стварылі саўгас. У агульны кароўнік паставілі саўгасных рагуль. Кожнаму давялося збіваць хляўчук для ўласнай каровы. Дровы здабывай сам, сена – цягай адкуль хочаш пасцілкамі. Накосіш толькі ўвосень на "дзялцы".

Былыя акалёнцы адразу адчулі розніцу між тым, як было, і як сталася. Таму матуля Антося Казла так і казала (ды ці толькі яна адна?):

– Нічога не хацела б, каб вярнулася тая панская акалёніца. У адной кашульцы пабегла б туды.

Цяпер тут калгас "Любань". Апусцелыя фермы зяваюць выбітымі вокнамі. У вялізных майстэрнях ляжаць рэшткі дабітай тэхнікі. Унукі і праўнукі тых акалёнцаў крочаць па шляху рыначнага сацыялізму. У чаканні па некалькі месяцаў заработкаў і нечага лепшага.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ.**

**«Піраміда» грамадства**

Фота IREX/ProMedia.




## Беларусь крочыць у будучыню?

**МАЛАДЗЕЧНА. Грамадства — гэта "піраміда", асновай якой з'яўляецца сям'я, умовай росту — нарадажальнасць. А на колькі вышэй мы ўзняліся ў гэтым годзе?**

— За мінулыя месяцы бачна, што мы ідзем на спад. Калі ў 2000 годзе было заключана 240 шлюбаў, то ў гэтым — 234. Па раёне ж смяротнасць вышэй за нараджальнасць у 2,5 раза (2000 год - 696 смерцяў, 2001 год — 736). Лідэрам па колькасці смерцяў з'яўляецца Лебедзеўскі раён — 113. І толькі ў пасёлку Чысць на 46 народжаных прыходзіцца 31 смяротны выпадак, — расказала загадчыца аддзела раённага загса **Ніна Бажко**.

Але ж не ўсё так дрэнна.

Ёсць добрая навіна для мужчын: матрыярхат нам не пагражае. З 297 народжаных 167 — хлопцы. А няроўныя шлюбы не перастаюць цікавіць і ў гэтым годзе. У верасні маладымі сталі 54-гадовы мужчына і 22-гадовая дзяўчына (яна студэнтка тэхнікума, у якім ён выкладае).

Вырашылі распісацца 78-гадовы жаніх і 69-гадовая нявеста. Не чакае атрымання пашпарта і моладзь — створана 9 непаўналетніх сем'яў.

Сапраўды, "каханню ўсе ўзросты пакорныя", але някепска было б, каб гэтае каханне і дзяржава спрыялі б узросту грамадства.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ АД АЎТАРА ПУБЛІКАЦЫІ

# Яшчэ раз пра непрыстасаваны цэнтр

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні мы атрымалі ліст на імя галоўнага рэдактара "РГ" Аляксандра Манцэвіча ад загадчыка аддзела адукацыі Вілейскага райвыканкома Яўгена Кулінковіча.**

*Паважаны Аляксандр Барысавіч!*

*У "Рэгіянальнай газеце" №37 ад 14 верасня 2001 года быў надрукаваны артыкул "Непрыстасаваны цэнтр дзіцячай творчасці". Аўтары артыкула Юрый Карпіцкі і Мікалай Хадасевіч не ў поўнай меры вывучылі абставіны і змест работы пазашкольных устаноў Вілейскага раёна, таму ў артыкуле адзначаецца блытаніна.*

*У раёне працуюць 4 пазашкольныя ўстановы, падпарадкаваныя аддзелу адукацыі, у тым ліку, два Цэнтры: раённы Цэнтр дзіцячай творчасці — былы Дом школьнікаў, які знаходзіцца ў двухпавярховым будынку па вул. Вадап'янава, д. 29; раённы Цэнтр дзіцячай тэхнічнай творчасці, які размяшчаецца ў двух памяшканнях па вул. Вадап'янава, д. 29 і па вул. Чапаева, д. 2. У Вілейцы няма Цэнтра пашкольнай установы.*

*Кіраўніком РЦДТТ з'яўляецца Валерый Андрэевіч Бяўзо (у артыкуле — Бязо).*

*Сапраўды, частка гурткоў Цэнтра дзіцячай тэхнічнай творчасці працавала ў арандуемым памяшканні гандлёвага цэнтра Оптыка-механічнага рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Зеніт". Але ў ліпені 2000 года нам у арэндзе было адмоўлена. Цэнтр вымушаны быў пераехаць у непрыстасаванае паўпадвальнае памяшканне па вул. Чапаева, д. 2, бо ў горадзе няма незанятых добраўпарадкаваных памяшканняў.*

*За летнія месяцы педагагічны калектыў РЦДТТ падрыхтаваў і адрамантаваў 4 пакоі, і з 1 верасня 2000 года гурткі Цэнтра пачалі працаваць у новым памяшканні. У 2000-2001 навучальным годзе ў РЦДТТ працавала 26 гурткоў, звыш за 300 вучняў наведвала гэтую пазашкольную ўстанову.*

*"Непрыстасаваны" Цэнтр дзіцячай творчасці ў 2000-2001 годзе ўдзельнічаў у абласной выстаўцы тэхнічнай творчасці, дзе гурткоўцы аўтамадэльнага гуртка занялі другое месца і атрымалі два прызы па другіх відах мадэляў. У конкурсе па пачатковай тэхнічнай творчасці сярод навучэнцаў Мінскай вобласці работы гурткоў РЦДТТ занялі 2 і 3 месцы.*

*У міжнародных спаборніцтвах на першынство Галандыі калектыўная кароткахалевая радыёстанцыя Цэнтра заняла 2 месца. Усе запланаваныя на 2000-2001 навучальны год вучэбна-выхаваўчыя мерапрыемствы выкананыя. На сённяшні дзень абсталяваныя санітарны вузел, пяць памяшканняў для гуртковай работы. Раённым аддзелам адукацыі для рамонтных работ выдаткоўваліся грошы на набыццё вагонкі і дошкі для падлогі, лінолеум, шкло, фарба. Рамонтныя работы, якія працягваюцца, таксама фінансуюцца.*

*Сапраўды, у рабоце РЦДТТ ёсць цяжкасці: неабходна працягваць рамонт, абстаўляць майстэрні, а ўсё гэта патрабуе матэрыяльных і фінансавых затрат, часу. Тым не менш, Цэнтр працуе, педагагічны калектыў выконвае пастаўленыя мэты і задачы. У бягучым навучальным годзе ў Цэнтры 26 гурткоў наведваюць 320 навучэнцаў. Цэнтр атрымаў неабходныя для работы з дзецьмі матэрыялы.*

*З поля зроку раённага аддзела адукацыі ніколі не выпадалі пытанні арагнізацы навучальна-выхаваўчага працэсу ў РЦДТТ.*

*Паважаны Аляксандр Барысавіч, лічым мэтазгодным пажадаць вам і калектыву рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты" быць больш аб'ектыўнымі і дакладнымі, не шукаць толькі адмоўнае, а больш расказваць і пра тое станоўчае, што ёсць у навучальна-выхаваўчых і пазашкольных установах нашага раёна і ўсяго рэгіёна, якія вамі названы Адной Зямлёй.*

*З найлепшымі пажаданнямі і надзеяй на плённае супрацоўніцтва*

**Я. КУЛІНКОВІЧ, загадчык аддзела адукацыі Вілейскага райвыканкома.**

Мы сапраўды няправільна ўказалі фамілію дырэктара Цэнтра дзіцячай тэхнічнай творчасці **Валерыя Бяўзо**, за што просім у яго прабачэння.

Нагадаем, В. Бяўзо расказаў пра свае прэтэнзіі да раённага аддзела адукацыі. Папершае, пасля таго, як Цэнтр выселілі з "Зеніта", новае памяшканне яны знайшлі самі, без дапамогі раённага аддзела адукацыі (раа). Гэта паўпадвальнае, на той час абсалютна непрыстасаванае памяшканне без святла і цяпла па вуліцы Чапаева. Па-другое, нягледзячы на тое, што раа давала на рамонт грошы, іх было недастаткова. Іншы раз не было чым заплаціць за цвікі. Цэлы навучальны год не было прыбіральні і ўмывальніка. Асвятленне і ацяпленне работнікі Цэнтра зрабілі сваімі сіламі.

Мы былі ў Цэнтры ў пачатку верасня. У той дзень там яшчэ не было ўмывальніка і прыбіральні (гэта было відаць на здымку да артыкула). Па вялікім рахунку, у той дзень нельга было займацца ні ў адным пакоі. Але да пачатку навучальнага года яшчэ заставаўся час (Цэнтр рэальна пачынае працаваць у канцы верасня), і тыя пакоі прыбралі. У іншых пакоях патрабаваўся рамонт – у адным з іх было накідана рэек з чалавечы рост. Там быў зроблены здымак, але ён знаходзіўся ў адным з камп'ютэраў, што выкралі з рэдакцыі. У Цэнтры летась займаліся каля 300 дзяцей у 26 гуртках. І ў адным пакоі займацца усім нельга. Цэнтр мы і назвалі непрыстасаваным з-за такіх умоў работы.

Гэта прызнае і Яўген Кулінковіч, які напісаў, што "Цэнтр вымушаны быў пераехаць у НЕПРЫСТАСАВАНАЕ паўпадвальнае памяшканне ..., бо ў горадзе няма незанятых добраўпарадкаваных памяшканняў".

Валерый Бяўзо яшчэ дадаў, што летась выхаванец Цэнтра выйграў адкрытае першынство Ізраіля па радыёпошуку.

Лічу, што летась гэтыя поспехі прыйшлі дзякуючы добрай базе і ранейшым напрацоўкам. Раней Цэнтр рэгулярна перамагаў у спаборніцтвах рознага узроўню. Мяркую, гэта здарылася насуперак сёлетняй сітуацыі з памяшканнем. Тым больш, што камісія, якая прымала памяшканне да навучальнага года, мела прэтэнзіі па санітарных нормах і магла не прыняць памяшканне. Гэта азначала б закрыццё Цэнтра.

А тое, што на сёння абсталяваны санітарны вузел і пяць памяшканняў для гуртковай работы – гэта добра. Значыць, памяшканне паступова рамантуюць і, як вынік, у гэтым навучальным годзе Цэнтр захаваў і гурткі, і вучняў. А ў дзень нашага прыезду ў Валерыя Бяўзо існавалі сумненні наконт таго, ці будзе Цэнтр працаваць увогуле.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ САКРЭТЫ ЗДАРОЎЯ ЖАНЧЫНЫ

## Прыгажосць жанчыны – яе здароўе

**Сярод жаночых захворванняў амаль ці не палову займаюць хваробы малочных залозаў.**

Па прычынах узнікнення яны дзеляцца на дзве групы: запаленчыя, якія выклікаюцца мікробамі ці грыбкамі, і незапаленчыя, у аснове якіх ляжаць разнастайныя расстройствы абмену рэчываў. Хацелася б пачаць свой цыкл з запаленчых захворванняў і расказаць чытачу пра востры мастыт.

Востры мастыт часцей узнікае пры з'яўленні трэшчын саска, як правіла, у кормячых жанчын. Раптам з'яўляюцца болі ў малочнай залозе, пачуццё распірання часткі яе, радзей усёй. Скура на ўчастку набухання гарачая, пачырванелая. Павышэнне тэмпературы цела нярэдка суправаджаецца дрыжыкамі. Пры несвоечасовым звяртанні да ўрача шчыльны ўчастак залозы размякчаецца, што гаворыць пра нагнаенне.

У большасці выпадкаў мастыт выклікаецца пранікненнем мікробаў праз пашкоджаную скуру, таму яе трэба засцерагаць ад драпін і пашкоджанняў.

У кормячых жанчын скура саскоў вельмі далікатная, таму ў ёй часта ўзнікаюць трэшчыны. Для іх папярэджання рэкамендуецца своечасова рыхтаваць грудзі да кармлення. Побач з агульнагігіенічнымі мерамі (ранішні туалет, абціранне цела вільготным ручніком і наступнае расціранне каляным, душ не радзей двух разоў на тыдзень, паласканне поласці рота пасля кожнага прыёму ежы, ранішняя і вячэрняя чыстка зубоў, падстрыганне нагцей), выконваюць спецыяльныя патрабаванні па доглядзе за малочнымі залозамі. Іх штодзённа абмываюць гатаванай вадой хатняй тэмпературы з дзіцячым мылам. Пасля абцірання чыстым каляным ручніком у бюстгальтар кладуць па кавалачку грубога палатна, прагладжанага гарачым прасам (ад трэння скура загрубае і не так часта трэскаецца). Вельмі важна пасля кожнага кармлення старанна сцэджваць малоко да "апошняй кроплі". Пасля сцэджвання малочныя залозы абмываюць, на працягу 10-15 хвілін прымаюць паветраную ванну.

Прычынамі мастыту могуць быць і пераахалоджванне, запаленчыя працэсы ў іншых органах, гнайнікі.

**Алена ГЛАЎНІЦКАЯ, галоўны ўрач Маладзечанскага гарадскога цэнтра здароўя.**

## ■ КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ.

Поле складаецца з 25 клетачак па гарызанталях (рады) і 35 клетачак па вертыкалях (стаўбцы). Лічбы ўказваюць на колькасць зафарбаваных клетачак у радзе ці стаўбцы. Калі, напрыклад, гэта лічба 5, то трэба зафарбаваць 5 клетачак запар. Калі гэта 2+1+1, то трэба зафарбаваць дзве, адну і адну клетачкі, але пры гэтым паміж імі павінен быць разрыў у адну ці болей клетачак.

Падказка: пачынаць выкрэсліваць клетачкі трэба з радоў ці стаўбцоў з найвялікшай лічбай.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №42**

Слова – не страла, а горш за стралу паражае.



## ■ ЛІСТАВАННЕ

**Наш чытач з Дэнвера (ЗША, штат Каларада) Віктар Русакевіч паходзіць з Маладзеча. У ЗША пераехаў параўнальна нядаўна. Ён піша, што пра жыццё роднага і навакольных гарадоў даведваецца з Internet-версіі "Рэгіянальнай газеты". Аглядавы матэрыял Дзмітрыя Кісялёва (Internet-рэсурс "Собкор.ru", зроблены, у сваю чаргу, па матэрыялах іншага рэсурса – "Прэсцэнтр. Ru") ён прапануе спецыяльна для чытачоў "РГ".**

# Законапаслухмяная краіна

**Заканчэнне.**

... І ў гэтай сувязі ні заканадаўцы, ні Буш-малодшы нават не задумаліся вось над чым:

Ёсць некалькі крымінальных злачынстваў, звязаных з адбіраннем маёмасці грамадзян – Кража, Грабеж і Разбой. На юрыдычнай мове Кража вызначаецца як таемнае выкраданне чужой маёмасці. Грабеж – адкрытае выкраданне чужой маёмасці. А Разбой – напад з мэтай выкрадання чужой маёмасці з прымяненнем насілля, небяспечнага для жыцця або здароўя, альбо з пагрозай прымянення такога.

Паколькі ў выпадках грабяжу і разбою ахвяра церпіць яшчэ і маральны ўрон, то гэтыя злачынствы заўсёды караліся больш строга, чым кража. Аднак няцяжка бачыць, што і грабеж, і разбой – ёсць не што іншае, як кража з папярэднім папярэджаннем ахвяры аб здзяйсненні гэтага злачынства. Значыць, з пункту гледжання юрыдычнай логікі Буша-малодшага ўсё павінна быць якраз наадварот: кража павінна карацца найбольш строгім чынам, а грабеж і разбой – з улікам змякчаючых абставінаў – папярэджання ахвяры аб будучым злачынстве.

Напэўна, невыпадкова менавіта Буш-малодшы праславіўся губернатарам, пад юрысдыкцыяй якога было прыведзена ў выкананне больш смяротных пакаранняў, чым ва ўсёй краіне за той жа перыяд часу. А памілаваннямі гэты кіраўнік сябе наогул не абцяжарваў. Улічваючы вышэйсказанае, можна меркаваць, што прычына зусім не ў яго паталагічнай жорсткасці, а, хутчэй, у неразуменні вельмі простай думкі: у выпадку судовай памылкі «фарш немагчыма пракруціць назад...»!

Аёва: *У Форт-Медысон пажарныя абавязаныя 15 хвілін трэніравацца перад кожным выездам на пажар, а ў Сент-Луісе пажарным нельга выратоўваць голых жанчын і жанчын, апранутых у халат або начную кашулю.* – Абодва законы невыканальныя з-за крымінальнай адказнасці пажарных за «пакіданне ў небяспецы» – заканадаўчай нормы, прынятай у больш позні час.

Канэктыкут (Нью-Брытн): *тут пажарным аўтамабілям забаронена развіваць хуткасць больш за 25 міль у гадзіну (40 км у гадзіну).* – Гэты закон таксама цяпер не працуе, паколькі ў больш позні час была прынятая заканадаўствам норма, у адпаведнасці з якой пажарныя машыны і машыны хуткай дапамогі павінны выязджаць на выклік не з максімальнай хуткасцю, а з хуткасцю, што забяспечвае бесперапынны раўнамерны рух. Для кожнага горада гэтая хуткасць свая і вызначаецца пры дапамозе адпаведных тэхналогій. Так, для Дэнвера (Каларада) гэтая хуткасць складае 35 міль у гадзіну...

## Гараскоп 29 кастрычніка – 4 лістапада



**Авен**
(21.03–20.04)

Нават калі вы не да канца вырашылі свае ўнутрысямейныя праблемы, давядзецца папрасіць прабачэння ў родных і аддаць сябе рабоце працэнтаў на 120. Пачатак значных пераменаў у дзелавой сферы. Магчыма, вам трэба будзе прымаць адказныя рашэнні.



**Цялец**
(21.04–21.05)

Кіраўніцтва зверне ўвагу на вашыя заслугі і прапануе вам павялічыць ступень уплыву на жыццё фірмы. Працей кажучы – прадбачыцца павышэнне. Адбудзецца шэраг неардынарных падзей.



**Блізняты**
(22.05–21.06)

Магчымыя ўсялякія спакушэнні. Любая легкадумнасць можа нашкодзіць навакольным і вам самім. Складанасці паспяхова вырашацца.



**Рак**
(22.06–23.07)

Вы адчуеце, як знешняе садзеянне пачынае прасоўваць за вас (!) неабходныя праекты і зменяць тое, што вы даўно хацелі змяніць, ды ўсё ніяк не рашаліся. Асабліва яркія і прыемныя нечаканасці ў справах у канцы перыяду.



**Леў**
(24.07–23.08)

Значна актывізуюцца як добразычліўцы, так і сапернікі, таму падрыхтуйцеся да ўважлівага разгляду праблемы ўзаемных стасункаў. Магчымаыя атрыманне цікавых звестак ці прыезд гасцей. Рыхтуйцеся да пераменаў.



**Дзева**
(24.08–23.09)

Створацца ўмовы для вельмі паспяховага інвеставання грошай. Перыяд спрыяе буйным прадпрымальнікам, банкірам і бізнесменам у сферы нерухомасці. Некаторыя цяжкасці могуць узнікнуць у пачатку лістапада.



**Шалі**
(24.09–23.10)

З пункту гледжання эмоцый, гэты перыяд можна параўнаць са шчаслівым часам маленства: спакой і камфорт у душы, ніякіх балячак! Аднак справы крыху будуць тармазіцца. У пачатку лістапада вы знойдзеце (своечасова!) свае пралікі.



**Скарпіён**
(24.10–22.11)

Энергія будзе перанакіраваная на дамашнія справы, чаму нямала ўзрадуюцца вашыя блізкія. Будуць бурныя спрэчкі і дэбаты, якія будуць тычыцца падзелу маёмасці ці перадзелу доляў у бізнесе. Асцярожна!



**Стралец**
(23.11–21.12)

Звяртайце самую пільную ўвагу на навіны, якія пойдуць шырокім патокам. Не здзіўляйцеся дзіўным падзеям і супадзенням, якія могуць паведаміць вам нешта важнае і каштоўнае.



**Казярог**
(22.12–20.01)

Маёмасныя выйгрышы і эканамічныя поспехі. Калі вы просты грамадзянін, паспрабуйце купіць латарэйны білет або паўдзельнічаць у якімсьці конкурсе. Пачатак лістапада можа некалькі дэстабілізаваць становішча.



**Вадалей**
(21.01–19.02)

Рэзка ўзрасце энергічнасць і асабістая сіла. Распарадзіцеся гэтым разумна і дысцыплінавана. Павысіцца вынаходлівасць, актывізуецца інтэлект. А пачатак лістапада адкрые простую ісціну – работа і сям'я не супярэчаць адно аднаму.



**Рыбы**
(20.02–20.03)

Актывізуецца "дарожнае жыццё", вас пацягне падарожнічаць. 31 лістапада пераверне некаторыя традыцыйныя ўяўленні пра сябе і прымусіць інакш паглядзець на свой унутраны свет і свае ўчынкі.



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах.
Тыраж **8140 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска).
Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная.
**№43 (340) 26.10.2001.** Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №.
Падпісана ў друк у 13.00 25.10.2001



Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»